Пераклад Васіля Раманава 2014 год.

**М. В. Доўнар-Запольскі**

# В. Дунін-Марцінкевіч і яго паэма “Тарас на Парнасе”.

Нарысы з гісторыі беларускай этнаграфіі[1]

## I.

У палове цяперашняга стагоддзя беларускі край і яго насельнікі вызываюць вялікую цікавасць да сябе з боку польскай і рускай літаратуры і навукі. З’явіўся шэраг нататкаў, апісанняў падарожжаў, сборнікаў песень, разваг пра мову, гістарычных твораў. Цікавасць да краю ўзбуджаецца пераважна мясцовымі ўражэнцамі і цэнтрам гэтага літаратурна-навуковага руху зрабілася Вільня. Адна частка пісьменнікаў, выхаваная ў польскім культурным асяродку пісала па польску, другая, меўшая больш сувязей з рускімі, перанесла сваю дзейнасць у сталіцы (пратаірэй Грыгаровіч, Шпілеўскі і інш.). Адных край цікавіў з боку навуковых назіранняў, другія пісалі аб краі таму, што любілі яго, як месца свайго нараджэння[2].

Вывучэнне народнай паэзіі прывяло да імкнення пераймаць яе, пішучы на народнай мове. Такім чынам з’явіліся стробы стварыць беларускую літаратуру. Некаторыя з гэтых проб тапілі ў друк (Манькоўскі, Баршчэўскі), іншыя задавальняліся рукапіснай і вуснай перадачай[3]. Але гэтыя пробы не мелі вялікага значэння. Першым, прыдаўшым сур’ёзнае значэнне літаратуры на беларускай мове, быў Дунін-Марцінкевіч. Мэта, з якою ён узяўся за пяро, заключалася не ў імкненні стварыць мастацкую літаратуру; як пабачым, яго дзейнасць мела практычны напрамак: ён імкнуўся звярнуць увагу паноў на сялян і даць зразумелую сялянам кнігу для чытання.

1. Надрукавана ў “Витебские Губернские Ведомости”, 1896 г.

2. У 60-тых гадах, ды, часам, і зараз, сустракаюцца ганьбавальнікі гэтага навуковага руху, відаць таму, што мясцовыя людзі пісалі тады па-польску, ці, хоць, і па-беларуску, але польскім шрыфтам. Але на гэта можна адказаць словамі сп. Пыпіна: “Той эпосе польскай літаратуры і грамадскасьці ў нас звычайна прыпісваюць ці адкрытую, ці прыхаваную інтрыгу і прапаганду паланізму; мы заўважалі ўжо, што ў адносінах польскіх патрыётаў да Заходняга Краю значна больш было простай гістарычнай прывычкі глядзець на гэты край, як на старажытную частку польскай айчыны, тым больш, калі з рускага боку цікавасць да гэтага краю амаль не існавала. Шмат хто з гэтых палякаў-патрыётаў і пісьменнікаў былі уражэнцамі менавіта гэтага краю; “народ” краю не быў польскім, але яны па старой памяці, лічылі яго сваім, даўно з імі звязаным і ў тую эпоху развіцця народнага рамантызму іх цікавасць напраўлялась на гэты народ, менавіта літоўскі і народ польскі.” Пыпін “Ист. Русской Этнографии, IV,47”

3. Гл., напрыклад, звесткі ў артыкуле Падбярознага, у прадмове да выдання Баршчэўскага “Szlachchic Zawalnia czyli Bialoruś  w fantastycznych opowiadaniach”, S.-Petb., 1844, выдавецтва Эйнерлінга, т. 1

З’яўленне кніжак на народнай мове ў Беларусі тады ўяўлялась пажаданым і шмат каму з вялікарусаў[4], і нават, на нейкі час, яно атрымала афіцыйнае прызнанне[5]. Правільнай ці не, была гэтая думка – для нас не мае значэння. У цяперашні час рэшткі гэтай літартуры маюць значэнне з гістарычнага боку і этнаграфічнага. З гістарычнага таму, што яны дазваляюць нам пабачыць настроі лепшай часткі грамадства краю перад самым вызваленнем сялян; з этнаграфічнага - таму, што ў іх мы знаходзім праўдзівае, часам напісаннае мастацкі, адлюстраванне жыцця беларускага селяніна нядаўняга мінулага; яны ўяўляюць сабой выдатныя ўзоры народнай псіхалогіі. З гэтага боку, як нам здаецца, навуцы неабходна лічыцца з творамі Вікенція Дуніна-Марцінкевіча, да якога мы зараз і звернемся.

В. Дунін-Марцінкевіч быў адным із лепшых людзей нядаўняга мінулага. Ён вырас у культурным польскім асяроддзі[6], але апынуўся адным з тых беларусаў, якія сваю дзейнасць прысвяцілі выключна на карысць радзімы, разумеючы пад апошняй, месца свайго нараджэння (і ў большасьці выпадкаў паходжання - беларускага). Між іншым у саракавыя-пяцідзесятыя гады, пад час ажыўлення польскай літаратуры, для ўсякага ўражэнца Заходняга Краю з польскім выхаваннем і хоць нейкімі пачаткамі літаратурнага таленту, было шмат спакус цалкам засяродзіцца на польскай літаратуры. За паэтамі Міцкевічам і Сыракомляй рушыў цэлы шэраг іх землякоў, як Герасім Марцінкевіч, В. Каратынскі, К. Паўлоўскі, Ф. Заторскі і інш., не пакінуўшых, дарэчы, у польскай літаратуры значнага следу. Але яшчэ больш прывабны іншы бок дзейнасьці Марцінкевіча: ён звярнуўся да літаратуры на роднай мове з асобнай мэтай,

---

4. Гл., напрыклад, прыкметы рэдакцыі “Маякъ” да артыкула А. Кавеліна “Памятники бѣлорусской письменности”, “Маякъ”, 1845 г. т. 23. Смѣсь, р. 30 и смѣсь р. 12 и 31: Рэдакцыя часопіса ахвотна прадастаўляла свае старонкі для твораў на беларускай мове і аб Беларусі. У такім жа напрамку больш рання заява рэдакцыя таго ж часопіса “Маякъ”, 1843 г. IX, смѣсь 33-38 (артыкул беларуса Цытовіча): “Дух пісьменнасьці пранікае ў самыя крайнія класы бедных беларусаў, хаця, менавіта, для іх у нас нічога не пішацца. Адкуль ведаць, ці нельга ў іх асяроддзі знайсці мужыкоў-грамацеяў?... Ці не знайдзецца пяро, пяро працавітае, якое прысвеціць сябе на карысьць гэтых мільёнаў, так сказаць, меншых братоў вялікай нашай сям’і, ці не прадоўжыць ён шлях да далейшай адукацыі сродкамі самымі блізкімі, адпавядаючымі іх высілкам, густу і звычаю ”. У доказ магчымасьці існавання такой літаратуры аўтар прыводзіць адзін верш.

5. Такі афіцыёзны характар мае брашура на беларускай і літоўскай мовах, выдадзеная ў Вільні ў 1863 годзе “Разсказы на бѣлорусском нарѣчіи”, стр.32. Брашура носіць палітычны характар. Вось яе змест: 1) Кто булы наши найдавнѣйшія диды и яка ихъ булла доля до уніи? 2) Ци добре мы зробили, покинувши унію? 3)Великая помылка нашихъ бѣлоруссовъ. 4) Розмова на цментари старосты Янка зъ братчикомъ Хведосомъ. 5) Сказка не сказка, бы ня быль, але такъ бываить.

6. Некралог Марцінкевіча з кароткімі біяграфічнымі звесткамі аб ім быў размешчаны Ал. К. Ельскім у газеце “Kraj” 1884 г. У нас ёсць у рукапісе больш падрабязная біяграфія паэта, напісанная Аляксандрам Карловічам. Для паўнаты прывядзем некалькі фактаў яго біяграфіі. В. Марцінкевіч нарадзіўся ў фальварку Панюшковічы, Бабруйскага ўез., на р. Бярэзіна, у 1807 г. Ён быў сынам дробных арандатараў і толькі ў 60-ых гадах на свае сродкі купіў сабе невялікі маёнтак Люцынка пад Менскам. Выхоўваўся паэт спачатку ў Бабруйскім вучылішчы, якое скончыў у 1826 годзе. Да 1828 году слухаў медыцынскія лекцыі ў Пецярбурзе, але пакінуў сталіцу і пасяліўся ў Менску, заняўшы месца ў рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыі. Першым яго творам, пабачыўшым сьвет, была камедыя “Sielanka”, напісанная на перамешанай польска-беларускай мове, надрукавана ў 1840 г.; за ёй былі “Hapon”, “Wieczernice” (1855), “Ciekawyś Przeczytaj!” (1856), “Dudarz białoruski” (1857), “Luczynka czyli szwedzi na Litwie” (уся на польскай мове 1861 г.).

прабудзіць у тагачасным грамадстве цікавасць да беднага хлопа. Ён любіў народ, глыбока паважаў яго і прызываў сваёй лірай да любові і павагі да яго, з боку сваіх адукаваных субратоў.

У гэтых адносінах ён набліжаецца да этнографаў, як Ян Чачот, бр. Тышкевічы, Кіркор, Юцэвіч, Сыракомля (у гісторыка-этнаграфічных працах) і інш. Але апошнія былі перш за ўсё навукоўцамі і навукоўцамі палякамі, для якіх беларус "крывіч", як яны яго звалі, быў цікавы з боку этнаграфічнага, разумення ж сваёй кроўнай сувязі з народам у іх няма. Марцінкевіч, перш за ўсё, беларус; ён любіў беларускага селяніна не таму, што яго цікавіў гісторыка-этнаграфічны аспект, а як свайго родзіча, земляка, адчувае моцную сувязь паміж сабой і беларусам. Мараль Марцінкевіча зводзіцца, перш за усё, да таго ж селяніна – істоты, валодаючай высокімі маральнымі якасьцямі, так што часта ён стаіць вышэй сапсаваных, спешчаных паноў і асабліва высока стаіць у параўнанні з так званымі "паўпанкамі". На самай справе, вялікія паны не маглі абыходзіцца без гэтых "паўпанкаў", выхадцаў із дробнай шляхты: яны былі арандатарамі, экономамі, упраўляючымі ў маёнтках. Людзі малаадукаваныя і грубыя, набліжаўшыяся да сапраўдных паноў толькі дзякуючы свайму шляхецкаму званню, яны пагарджаліся і прыгняталі прыгонных больш старанна, чым самі паны. Тыпы такіх "паўпанкаў" паказаны ім у "Гапоне" і ў "Купале", ў невыдадзенай драматычнай п'есе "Пінская шляхта" і ў "Дажынках". Але рацыя селяніна, сумленнасць сялянскай дзяўчыны бяруць верх. Улюблёны тып Марцінкевіча – нявінная дзяўчына, на якую хочуць так ці інакш узвесьці паклёп, пакрыўдзіць. У "Шаўроўскіх дажынках" Тадорка "як зорачка ясна" (р. 100):

Кроў з малаком яе шчочкі,
Маланкаю блішчаць вочкі,
Спадчішка, бач як зіркне,
Сэрца молатам заб'ецца,
Грудзі полымям абальюцца,
Не спазнаеш сам сябе.

Яна ж чэсна – працавіта і г. д.[7].

Некалькі разоў паэт звяртаецца да вобразу маладой сялянскай дзяўчыны. У "Купале" Агатка любіць паніча, ён яе. Але паніч, па сваёй сапсаванасьці, клянучысь ёй у каханні, у той жа час прапануе ёй выйсьці за кахаючага яе Саўку,

---

7. Якасьці жонкі селяніна паэт ставіць высока. У "Купале" ("Ciekawys"?... 33), перадаючы народнае паданне, паэт паказвае, што і князева жонка, якую чалавек браў у золаце і панава жонка, якую чалавек браў у срэбры – абедзьве аказаліся не вельмі добрымі. Толькі гаспадарская дачка, жонка гаспадара Янкі, выявілася жонкай і працавітай, і пачытаючай Бога і вернай:

Трэццяя Яначкава, што была ўбога,
Працавала шчыра, у баязні Бога;
Пакорлівая, ціхая, - для мужыка верная,
Без думы, без жоўці – а так міласердна!
Што як Бог дарыў ім у гумне ізбыткам,
У клеці запасам – аборы дабыткам,
Усякі кусочак з бедным дзяліла,
Не адна там маці яе благаславіла. – і г. д.

а самі мы "як цяпер кахаем адзін адзін аднаго – так і кахаць будзем". Такое падступства крыўдзіць дзянчыну:

Як пачула дзеўка гэтакі навукі,
Вось, маўляў, асінка ўся затраслася,
Уздыхнула цяжка, заламала рукі,
Горкімі слязамі тут жа залілася,
Пасьля смутным вокам на дзецюка гляне,
Дый такія такія рэчы казаць яму стане:
"Да таго ж няшчаснай мне ўжо прыйшлося,
Што такія брэдні слухаць давялося!
Бог мяне карае, што ветрэна стала,
Пачцівага сэрца чурацца пачала;
Паніч толькі зводзіш, хочаш забаўляцца?
А не ласка ж будзе са мной павянчацца?"
- "Што табе, Агатка, сягодня прыспела,
Ці ты ўпілася, ці ты здурэла? –
Каб шляхціч з мужыцкай дочкай ажаніўся!
Яж бы між сваімі тады не ўжыўся!
Пальцамі б мяне ўсе вытыкалі,
Як ад злой сабакі чурацца бы сталі!"
- "А мяне ж не будуць свае выракацца,
Бацька праклінаці, суседзі чурацца,
Што з панічом я стану ў сораме жыці?
Вам не грэх мужычка па чэсці забіці,
Бо мужык не годны, - Не Боская справа?
Усяк здзеквацца над ім мае права!
Яно, бач, не маці як вас нарадзіла!
Як шляхціча, яго не прыме магіла!... –
Дзякуй жа панічу, за тваё каханне,
Мілейшы ж мне Саўка ў мужыцкім стане:
Ён не схоча беднай дзяўчаці,
Ён пачцівым сэрцам век любіць будзе!"
Так наша Агатка міламу адкажа,
А хоць слёзкі градам па твары пакаціліcь,
У полымі сэрца молатам забілась,
Хоць на душу гора каменем наляжа,
Разумная дзеўка, помніць боязнь Бога,
Маўляў, ад гадзюкі, ад свайго мілога,
Пужліваю ланню яна ўцякае:
Дарма злосны пісар вернасць прысягае,
Яна ўжо далёка – грудзі цісьне рукою,
Сэрца аблілося крывавай таскою.

Гэты ўрывак дастаткова характэрузуе цёплыя адносіны паэта да селяніна. Паэт ідэалізуе тып сялянкі і, галоўным чынам, для таго, каб паказаць, што і над

мужыком “грэх здзеквацца”, - як гаворыць тая ж Агатка ў іншым месцы; ідэалізуючы селяніна, ён, у той жа час, прызывае пана-шляхціча да больш чалавечых адносін да свайго селяніна.

Марцінкевіч не толькі прызываў паноў да больш чалавечых адносін з сялянамі, ён ішоў далей, прапаведуючы неабходнасць адукацыі для сялян, неабходнасць школ і, нарэшце, паляпшэння эканамічнага становішча. У “Гапоні” ён даў прыклад таго, што селянін далёка не так нізка стаіць у адносінах розуму, што адукацыя прыдатна і яму. З якой радасьцю ён прысьвячае сваю кніжку “Ciekawyś Przeczytaj” Аляксандру Лаппу, маршалку Бабруйскага павету, менавіта таму, што праязжаючы праз маёнтак Лаппы, аўтар сваімі вачамі бачыў цудоўныя гаспадарчыя пабудовы сялянскага люду (poczciwego ludu), якія сведчылі аб дабрабыце насельнікаў. “Маё сэрца забілась весялосьцю! Я знайшоў тут дабрабыт ва ўсім, які сведчыў аб запяспечанасьці жыхароў. Тады радасна я ўсклікнуў: Бог жыве з гэтымі людзьмі! Не панская рука, а бацькава тут кіруе.” Ён не знаходзіць нікога навокал каму б можна было прысвяціць сваю кнігу, як толькі “апекуну слабых”, бацьку сялян. Ды і мэта яго кніжкі, гаворыць Марцінкевіч далей, - заахвоціць вясковага жыхара (wiesniak) да чытання, каб ён развіваў свой розум, да гэтага знаходзіўшагася ў цемры.

Але, добра ведаючы, што мала знойдзецца паноў, якія б безкарысліва старалісь палепшыць побыт і адукацыю сваіх прыгонных сялян, ён у прадмове да “Гапона” паказвае панам і практычную выгаду: адукаваны, забяспечаны селянін будзе больш сумленным, больш разумеючым служкай, - думаючы хоць такім матывам звярнуць увагу паноў на сваіх сялян. Але канчатковай мэтай яго жаданняў, аб чым ён мог пісаць, але не мог друкаваць – гэта было поўнае вызваленне сялян ад прыгону. Што менавіта гэтая мэта складала запаветную мару Марцінкевіча, відаць із аднаго невыдадзенага верша, які мы, карыстаючысь нагодай, тут і прыводзім. Верш напісаны ў 1860 годзе. Рукапіс напісаны рукою паэта і падпісаны псеўданімам “Навум”[8].

Вось яно:

Вясна голад перапала,
Ані солі, ані круп:
І скаціне корму мала,
І самому ані ў зуб.

На палацях дохнуць дзеці,
Жонка тры дні з дуру п’е,
І даўно парожна ў клеці,
Хоць была добра клець.

Хоць халодна, хоць галодна,

8. Навум падраз. Прыгаворка героя п’есы “Сялянка”; гэтым імем Марцінкевіч часта называе сябе ў сваіх творах, часта падпісваўся, быў вядомы пад гэтым імем сярод сяброў. Ролю Навума Марцінкевіч выконваў на Менскай сцэне і меў посьпех.

Хоць бы голад – ніпачым:
Вось кабы нам свабоду –
На свободзе аджывем.

Будзем роўнымі з панамі
І так сама, як паны
Піць гарэлачку жбанамі
І гуляць так як яны.

Вось панам не дужа лоўка –
Самім трэба працаваць!
Пабаліць не раз галоўка,
Калі прыйдзецца араць!

Не адзін з іх заспявае
І заскача драпака:
Яны толькі есьць умеюць
І драць скуру з мужыка!

Перастануць нашым братам,
Як скацінай таргаваць
Напускацца ліхім матам,
І скуру з нас да карка драць.

Будзе мужык не скаціна,
Не раз скажа пан з паноў
Пане Хведар, пане Міна,
Як жа, васпань, ці здароў?

І так, без сумнення, жаданне паэта – гэта вызваленне сялян. Па сваяму звычаю ён не ўтрымліваецца і ў гэтым выпадку ад ідэалізацыі: разам са свабодай паэту бачыцца і поўная роўнасць мужыка з панамі, выказваючаяся ў тым, што мужык будзе называцца "панам"; прыйдзе і матэрыяльнае паляпшэнне: яны будуць піць гарэлку з панамі і гуляць; паэт да такой ступені пранікся сваёй ідэяй, яго жаданні так зліваюцца з марамі шэрай массы, што ён злараднічае, смяецца над становішчам паноў, у якім яны апынуцца пры вызваленні, хоць і ён сам і яго атачэнне такія ж паны. Прыведзеных прыкладаў дастаткова, каб больш менш дакладна ўявіць сабе практычныя мэты, якія ставіў сабе Марцінкевіч, хаця тут зусім не мелась на ўвазе перадаць усе характэрныя месцы яго твораў. Галоўнае, паўторым, што натхняла паэта – гэта безкарыслівая любоў да селяніна, жаданне асабіста прынесьці карысьць і натхніць на гэта іншых; нарэшце, ён адчуваў і сябе часткай гэтага грамадскага "міру". Шлях, выбраны Марцінкевічам для дасягнення гэтай мэты, ва ўсякім разе арыгінальны (разуменне гэтага было лепшай узнагародай паэта; гл. прадмову да "Дудара") і

больш заслугоўвае адабрэння, чым злобнае разкрыванне народнага гора, без паказу прычын, без прапановы сродкаў выйсця[9].

Але як мастака-аматара Марцінкевіча цікавіў і наогул побыт селяніна. У яго творах мы знаходзім этнаграфічна правільную, але мастацкі прыведзеную карціну народнага побыту. Да ліку пабытовых п'ес належыць і надрукаваны ніжэй "Тарас на Парнасе".

## II.

"Тарас на Парнасе" да гэтых пор не друкаваўся ў поўным выглядзе, але гэты твор дастаткова добра вядомы ў рукапісах ва ўсіх кутках Беларусі, пры гэтым імя аўтара наўрад ці каму вядома. Ён ужо ўвайшоў у шэраг тых цікавых твораў, большай часткай сатырычнага накірунку, якія ў вялім ліку ходзяць у рукапісах ці вуснай перадачы ў краі, як "Панскія гульбішчы", "Гутарка Данілы", але аўтары якіх невядомы. У гэты цыкл трапілі вялікія ўрыўкі з "Гапона". Да мяне асабіста "Тарас на Парнасе" дайшоў у больш менш скажоным выглядзе з розных канцоў Менскай і Магілёўскай губ.; некаторыя рукапісы, відавочна, выйшлі із асяродку не ведаючага ні польскай ні вялікарускай літаратуры, г. зн. із асяродку напалову народнага і нават народнага, таму што сустракаючыся ў іх імёны пісьменнікаў перайначаны, ці, нават, наогул вікінуты. Адзін са спісаў, ходзячых ў Віцебскай губ., быў надрукаваны ў №37 1889 г. "Минский Листок", але гэты рукапіс адзін з вельмі перайначаных. Прычыну поспеху, якім карыстаецца "Тарас", трэба шукаць у тым, ўто ў гэтым маленькім творы, як і ў іншых п'есах Марцінкевіча, вельмі жыва і цікава паказана жыццё заможнага беларускага селяніна; не толькі правільна намалявана знешняе жыццё, але і дадзена правільная, зразумелая для ўсякага беларуса, характарыстыка разумовага і душэўнага аблічча селяніна.

Лясны вартаўнік Тарас, працавіты і сумленны ў выкананні сваіх абавязкаў, выйшаў на абход лесу да свята на самаго Кузьму-Дзям'яна, калі, па народнаму павер'ю, лёгка могуць здавацца ўсякія жахі і небыліцы. Так і здарылася. Праставаты Тарас задрамаў і, сам таго не ўсьведамляючы, трапіў у зусім для яго не вядомыя абставіны – трапіў на Парнас да самаго Зеўса ў госьці. Ён праштурхаўся паміж паважна стаяўшымі каля падножжа гары паэтамі на яе вяршыню і тут пабачыў зусім знаёмыя абставіны: вялікую хату заможнага селяніна, па дворы ходзяць свінні, багіні мыюць багам парткі, Няптун пляце сетку і г. д.; у хаце таксама знаёмае відовішча: жарты Амура, бойка Марса з Геркулесам, агульнае застолле багоў – такое застолле, якое магло толькі ў сне і прысніцца беднаму лясніку – усё гэта намалявана жыва і правільна. Але, як

9. Цяжкае ўражанне робіць, напрыклад, апавяданне "Газыка" у "Масквіцяніне" 1843, т. IV ч. 8, стр. 383-412. Яго аўтар, віцеблянін, з нейкім зларадствам паказвае вечна п'янага Янку і іншых лайдакоў. Канешне, тып Янкі і іншых прыведзеных там асоб, гэта таксама свайго роду ідэалізацыя народнага побыту, з мэтай звярнуць на яго ўвагу літаратуры. Але такі спосаб можа і адводзіць грамадства ад сялянства.

відаць із гэтай схемы, падарожжа Тараса заключана ў некалікі незвычайную форму. Мы маем справу з сатырай. На жаль, вельмі цяжка сказаць што-небудзь дакладнае аб тым, з якой нагоды аўтар напісаў гэтую сатыру, ці што ён меў на ўвазе.

Мяркваць, што аўтар заднім чынам крытыкаваў ілжыва-класіцызм, наўрад ці магчыма. Можа быць аўтар меў на ўвазе зусім іншую мэту: выкарыстаўшы старыя ўзоры, накшталт варыянту Энеіды, даць нам сучасную замалёўку беларускага народнага побыту і пры нагодзе пасьмяяца над ідэямі пісьменнікаў, якія не маючы вялікага таленту, цягнуцца за значнымі паэтамі, бяруцца за "высокія" тэмы, забываючыся на свой народ і сваю радзіму; такіх паэтаў, як мы ведаем, было шмат сярод сучасьнікаў Марцінкевіча.

На заключэнне нашага артыкулу змяшчаем тэкст самаго твора "Тарас на Парнасе".

Ці знаў хто, браткі, з вас Тараса,
Што палясоўшчыкам служыў? -
Што на Пуцявішчы, ля Парнаса,
У прысёлку сабе жыў?
О! Чалавек ён быў рахманы,
Гарэлкі ў губы ён не браў –
Затае ў ласцы быў у пана:
Яго пан вельмі шанаваў!
Любіла тож Тараса пані,
І войт ні разу не брахаў;
За то ад вечара да рання
Ён бору шчыра пільнаваў.
Чуць сьвет – а стрэльбу ён за плечы,
Сякеру заткне за паясок,
Ды й бору ідзе сьцярэгчы,
Ды птушачак страляць падчас.
Хадзіў ён доўга ці мала,
Аж нешта адзін раз
Вялікая бяда яго спаткала –
Вось як казаў мне сам Тарас.
На самаго Кузьму-Дзям'яна
Пайшоў я біць цяцерукоў, -
А ўстаў у той дзень вельмі рана –
Здаецца з першых петухоў.

Іду сабе я панямногу, -
Ды і на пні трохі прысеў,
Аж разам – луп! Цераз дарогу
Як быццам цецярук узляцеў.
Я за стрэльбу – яна не паліць!

Я за другі курок – не пячэ!...
Гляжу, - аж із-за ёлкі валіць –
Як ёсць, хароміна-мядзьведзь!
Хоць не трусьлівы я дзяціна,
Аднак затросся, як асіна,
Зубмі, як цуцька лапятаў,-
Дый чуць не захвараў!

Я з перапугу аж сплюнуўся
І думаў – я за пень заскочу!
Скакнуў, не трапіў, пасьлізнуўся
І ў яму тарчаком лячу!

Ляцеў, ляцеў – як загрыміць, -
Аж стала зелена ў вачах!
Дождж як з вядра пачаў ліці,-
А я ляжу – як доўгі – на плячах,
Устаў з зямлі, акалаціўся,
Бо быў у гразі, як сьвіння –
І доўга сам сабе дзівіўся: -
Куды ж гэта трапіў я?...
Рукой паскроб я каля вуха,
Дастаў з кішэні рагавень,
І храпы насыціў цяртухай,
Бо ўжо не нюхаў цэлы дзень.

А вой! А вой! Як тут прыгожа,-
Як бы хто намаляваў:
Чырвоны фарбы, - мак і рожа –
Шырынку мерам хто паслаў!
І птушкі ёсць там дужа стройны,
Пяюць не горай салаўя.
Ах, вохтцы мне! Ах, вохцы я!
Куды ж гэта трапіў я?

Стаяў я доўга, дзіваваўся,
Разінуў зявы і глядзеў, -
Аж тут адкуліткі ўзяўся, -
Ні то прыйшоў, ні пругляцеў –
Хлапчына нейкі – круглалікі,
Увесь кудравы, як баран, -
А за яго плячмі вялікі
Прычэплен лук ды і каўчан.
- Адкуль ідзе дарога гэта?

Спытаў я хлопчыка той час.
- Дарога гэта з таго сьвету, -
Атвеціў – проста ідзе на Парнас.
Сказаўшы, хлопчык засьмяяўся,
На крылах шпарка паляцеў,
Кудысь ён мабыць быў спяшаўся:
Сказаць дарогі не хацеў.

Парнас? Што за чорт такі?
Падумаў сабе наш Тарас,
І ўзяўшы ў рукі добры кій,
Шпацырыць проста на Парнас.

Прайшоў вёрст дзесяць той дарогай,
Аж бачыць, - там гара стаіць,
Пад той гарой народу многа –
Як бы кірмаш які кіпіць.

Прайшоў ён бліжэй, - што за ліха?
Народ не просты, - усё паны!
Хто дужа шпарка, хто паціху
Усе ўгару ідуць яны.

Як жыды ў школе галасуюць,
Гатоў адзін аднога з’есьць –
Друг друга ў бакі штурхаюць –
Каб першым на гару ўзлезць.
Усе з сабой цягаюць кніжкі,
Аж пот з іх лысін ручаямі хлешча,
Адзін аднаму выціскаюць кішкі,
Аж нехта паміж іх пішчыць:
- Памалу, браткі, не давіце
Вы хвалітону маёй “Пчалы”,
Мяне самога вы пусьціце
Ды не трымайце за палы!
Бо слухайце! У газеце
Я вас аблаю на ўвесь сьвет,
Як тое было ў прошлым леце,-
Бо я радактарам газет!

Глядзіць Тарас, аж нейкі сівы,
Кароткі, тоўсты, як чурбак,
Кудлаты нейкі не красівы,
Крычыць, як апантаны пан.

Нясе вялікі мех пан гэты
Ды й той паўнюханькі набіт,-
Усё там ксёнджкі ды газеты,-
Ну бач каробачнік, ці жыд.

Раптам нешта зашумела,
Народ раздаўся на канцы,
Як бы птушак наляцела –
Узышлі чатыры малайцы.
То быў народ ужо не такоўскі:
Міцкевіч, Пушкін, Кахаnoўскі
І Гогаль, - хутка каля нас
Пайшлі як павы на Парнас.

За імі ззаду Грэсь ідзе,
Нясьці ім кіжкі памагае,
І граматыку за паясом нясе,-
Тую, што ў школы навучаюць,
Ну, словам, многа тут народу
Збіралась лезьці на Парнас:
Было і важных там і зброду,-
Так, як трапляецца ў нас.

Паміж людзей Тарас штурхаўся
Ад пары да пары –
Аднак праз лаку ён прабраўся
І проста валіць да гары.
Узлез, глядзіць, будынак новы;
Стаіць звычайны панскі двор;
Кругом яго ж тын дубовы –
Нябось не ўлезе сюды вор!
А на двары там сьвінні ходзяць,
Сабакі, козы і бараны,-
Мабыць і богі гаспадарку водзяць,
Калі сьвінней дяржаць яны?

У цот і лішку на двары гуляюць
Парнаскі хлопцы-дзяцюкі,
А хто капеечкі не мае,
Той лупіць проста на шчаўкі.

Улез Тарас к багам у хату,
Аж там – ну вось ні даць ні ўзяць –
Як у казармах там салдатаў –

Багоў, не можна пашчытаць!
Шаўцы на лаўках дратвой шыюць
Багам, багіням хадакі,
Багіні ж у начоўках мыюць
Багам сарочкі і парткі.
Сатурн сам, лыкі размачыўшы,
Касьцякай лапці заплятаў,-
Па сьвеце многа нахадзіўшы,
Лапцей ён многа патаптаў.
Няптун на лаўцы чыніць сеці
І ладзіць восьці на шасты,
Кругом жа, мусіць, яго дзеці,
Дзіравы лепляць нераты.
Вось б'юцца Марс з Геркулесам;
Геркулес як які мядзьведзь,
Каб сцешыць старога Зеўса,
Чупрыну Марсу добра мне!

Зявес залёг сабе на пієчы,
Сярмягу ў галаву паклаў
І, грэючы старыя плечы,
Нешта ў барадзе шукаў…

Там перад люстрам задам меле
І маслам мажа валасы
Ды й нечым сабе тварык беліць
Вянера – мусіць, для красы.

Амур з дзяўчатамі гуляе –
Ну проста смех на іх глядзець:
То ён знянацку абдымае,
То хустку з галавы здзярэ!
То ў горлянку зайграе,
То адным вокам памігае,
Як быццам мілую заве.

Тарас тут дзівіцца, сьмяецца,
На усё, разінуў рот, глядзіць,
І ліха, што яму здаецца –
Ну быццам ён у раю сядзіць!

Зявес на печы павярнуўся,-
Аж затраслася ўся гара,
Зяўнуў ён раз ды пацягнуўся

І кажа: есці ўжо пара.
Тады праворна дзеўка Геба
Даваць да столу пачала:
Як жорны тры буханкі хлеба
Прынесла, ды і бразь сярод стала.
За гаспадыню ў неба ўзята
І есць і піць багам варыць;
Не бойся! Не дарам яе плата:
Ці ж лёгка столькіх накарміць?!

Як з усяго сабраліся неба
Багі і селі круг стала,
Тады патравы з печы Геба
Даваць да столу пачала.
Уперад паставілі капусту,
Потым са шкваркамі кулеш,
На малаццэ крупеню густа –
Даюць у волю, толькі еж,-
Із пастаялкі сыр студзёны,
А з кашы масла дык цякло!
Ды і гусяціны пячонай
У волю ўсім багам было.
А як уняслі на стол каўбасы,
Бліны аўсяны ў рашаце,-
Аж слінкі пацяклі ў Тараса
І забурчала ў жываце!
Багі гарэлку піць пачалі,
Наліўку проста так ільюць:
Напіўшысь песьні заспявалі,-
Так, як у карчме пяюць.

Бах з п’яну пеў прыпеўкі
І вёў гутаркі такія,
Што сароміліся аж дзеўкі,
А з імі і бабы старыя.
Ды і Зявес, як насьцябаўся,
Дык носам чуць зямлі не рыў,
Як жыд над бібліяй ківаўся
І брыдкі рэчы гаварыў.

Тады з застолу ўсталі,
Як усё паелі, папілі,
І той час музыкі зайгралі:
Багіні скакаць пачалі.

Узяўшы хустачку, Венера
Пайшла мяцеліцу гуляць, -
Прыгожа, стройна цераз меру,
Што аж не можна і сказаць!
Бела, тоўста, круглаліца,
А вочы, бач ты, на калёсах;
Як жар гарыць яе спадніца
І чырвона стужка на касах.

Няптун з прыгожанькай Наядай
Пайшоў упрысяд казака,-
Нябось і ў старога дзеда
Зайграла кроў, як у дзяцюка!

А вось і сам Юпітэр з Вестай
Пусьціўся, стары хрэн, у пляс
І як жаніх перад нявестай
Заткнуў ён рукі за свой пас!

Хоць тут і не мая ўжо справа,
Не след мне можа і казаць,-
Любіў ён вельмі грэшна цела,
І часам лоўка падгуляць…
Далей Марс у новых ботах,
Каторых, мусіць, не жалеў,
Бо з німфамі скакаў у потах,
Гуляў у жмуркі і шалеў.

І кожны бог так разгуляўся,-
Не мог галёнак утрымаць!
А хто праз меру наскакаўся,
Таго пад лаўку клалі спаць.
Як зайграў дудар скакуху,
То і Тарас не вытрымаў:
Із-за прытолку, што ёсць духу,
Гуляць па хаце паляцеў.
Як стаў прытоптаваць атопам,-
Аж рты разінулі багі,
А ён з размахам, то з падскокам,
Як вехар гоніць у кругі!
Глядзеў Юпітэр ды дзівіўся
І пад дуду ў ладоні даў,
Патом к Тарасу наблізіўся
І ласкава яго спытаў:

- А ты адкуліча пряцель?
Што ж ты забраўся на Парнас?
Хто ты такі? Можа пісацель?
- Не, мой паночку, я Тарас!
Я лясьнічы з Пуцявішчаў,
Толькі сёння я з двара.
Я заблудзіў на то ігрышча,
І бач дамоў ужо пара!
Ці не была б паночак, ласка,
Мяне ў двор адсюль завесьць?
Хадзіўшы па гары Парнаскай,
Мне вельмі захацелась есьці.
Кіўнуў Зявес і зараз Геба
Крупені місу наліла
І добрую краюху хлеба,
Сказаўшы "еш" мне падала.
Тады я, крупняку пад'еўшы,
Хацеў ісьці да дому сам,
Аж тут зафіры падхапілі,-
Хто за руку, хто за паяс,
І, мерам, сілай пацягнулі
Яны мяне праз увесь Парнас.
І так яны мяне цягнулі,
Як хто іх гнаў у каршэнь,
З гары мяне звёўшы, падпіхнулі
Пад нейкі вось гнілы пляцень.
Паслухаў я – такі дзьме вецер,
Што аж ківаецца весь лес.
Гляжу – аж позна – ужо вечар,
І месяц на неба ўжо ўзлез…

З тых пор Тарас ужо не ходзіць
Так рана лесу пільнаваць,
А праз тое і не шкодзіць
Людзям дровы выкрадаць…

Дык вось што бачыў наш Тарас,
Узлезшы на гару Парнас.
Ён мне тое расказаў,
А я ў кніжку запісаў.